# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (779) ГОД XVI БЕЛАСТОК 31 СТУДЗЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.



*За свідравальным станкам сустракаю Веру Іванюк..*

# ПЕРШАЯ ФАБРЫКА Ў БЕЛЬСКУ

Бельск-Падляшскі, 14-тысячны горад, сталіца павета, хаця некалькі гадоў таму назад урачыста адсвяткаваў 900-годдзе свайго існавання, аднак ніколі не даваў падстаў для таго, каб назваць яго прамысловым цэнтрам. Старое, запыленае прадпрыемства па перапрацоўцы ільну, малачарня, дзяржаўная машынна-трактарная станцыя, будаўнічае прадпрыемства і гэта ўсё. Куды яму было да малодшай на звыш восем стагоддзяў суседняй Гайнаўкі з яе хімічнай і дрэваапрацоўчай прамысловасцю!

Сапраўднае прамысловае прадпрыемства пачало працаваць у Бельску толькі пад канец мінулага года. За 40 мільёнаў зл. Беластоцкая фабрыка машыннага абсталявання пабудавала ў Бельску свой філіял.

З высокай галёркі гляджу я на прадукцыйны цэх. Роўнымі радамі, быццам калоны салдат на парадзе, выстраіліся тут такарныя, фрэзерныя, шліфавальныя, свідравальныя і нейкія іншыя станкі. За станкамі — людзі, бельчукі. У асноўным маладыя. Сярод іх некалькі жанчын. Цяпер на бельскай фабрыцы працуе звыш 200 чалавек, у наступных гадах будзе іх больш. Прыйшлі сюды з Бельска і з навакольных вёсак.

— Здаралася так, — кажа кіраўнік бельскага філіяла, — інжынер Эдмунд Шадура, — што некаторыя з нашых рабочых тут, у нас, упершыню ўбачылі сапраўдны металаапрацоўчы станок. Ён сам прыйшоў у Бельск аж са Шлёнска, дзе шмат гадоў працаваў, дзе завочна закончыў вышэйшую школу.

— Аднак я заўсёды сумаваў па Беласточчыне, — заяўляе ён. — Да вайны мой бацька працаваў на чыгунцы ў Гайнаўцы, а я сам вучыўся там у прафесіянальнай школе. І мая жонка таксама адсюль, з Боцькаў.

Знаёмлюся з некаторымі рабочымі бельскай фабрыкі. За вялізным свідравальным станком сустракаю Веру Іванюк. Яе муж працуе шафёрам, дзеці вучацца ў школе. Яна сама закончыла 9 класаў агульнаадукацыйнага ліцэя і доўгі час працавала прадаўшчыцай у адной з бельскіх крам.

— Я першая, — гаворыць яна, — у нашай сям'і дала пачатак рабочай традыцыі. Думаю, што мае дзеці пойдуць маім следам. Не хацела б толькі, каб спыніліся яны ў навуцы на прафесіі свідравальшчыка, хай вучацца прынамсі на тэхнікаў або інжынераў. Такія ж людзі тут будуць патрэбны.

І гэта праўда. Бельская фабрыка па-

Працяг на стар.4

Сустрэчы з „Нівай"

# МАЛАДЗЁЖНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ У ЛІЦЭІ

6 студзеня г.г. адбылася ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы сустрэча членаў праўленняў розных маладзёжных арганізацый — ЗМВ, ЗГП, ТППР, а таксама вучнёўскай спулдзельні — з «Нівай». Удзельнікі сустрэчы расказалі «Ніве» аб працы маладзёжных арганізацый.

Віталіс Янцэвіч (старшыня гуртка ЗМВ, вучань кл. III «б»):

— Наша 150-асабовая школьная арганізацыя ЗМВ належыць да ліку вядучых арганізацый у школе. Я раскажу аб нашай дзейнасці ад пачатку навучальнага года 1970/71. У верасні арганізавалі мы вечарыну з першакласнікамі, якіх пазнаёмілі з нашай дзейнасцю. 70 асобам уручылі мы членскія білеты ЗМВ. Затым адбыліся танцы пад гукі аркестра. Культурныя мерапрыемствы арганізавалі мы ў школе ў сувязі са святкаваннем гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі і Дня настаўніка. Выступілі мы з ініцыятывай, каб увесці дыжуры на калідоры і ў раздзявальні, трэба сказаць, што ўдалося нам гэта ажыццявіць. Удалося нам паказаць сябе і ў грамадскіх чынах. Мы ўпарадкавалі школьны агародчык і панадворак.

— А я яшчэ дадам, — кажа Юрка Чурак (намеснік старшыні гуртка ЗМВ, вучань з таго самага, што і В. Янцэвіч класа), — аб іншых нашых культурных мерапрыемствах. Сістэматычна арганізуем мы сустрэчы з цікавымі людзьмі. Сустракаліся мы дагэтуль з гайнаўскімі архітэктарамі і даведаліся аб разбудове горада Гайнаўкі і яе ваколіц у будучыні. З маладзёжным спортам на Гайнаўшчыне знаёміў нас старшыня паятовага праўлення ЛьЗС.

Варта сказаць і аб тым, што члены ЗМВ прымалі актыўны ўдзел у народным перапісе ў канцы 1970 года. Арганізавалі мы таксама паездку ў беластоцкі тэатр.

— А цяпер рыхтуемся мы да Алімпіяды грамадска-палітычных ведаў, — уключаецца ізноў у размову Янцэвіч В. — Зрабілі мы сценгазету на тэму алімпіяды і паказалі правілы ўдзелу ў ёй. Зараз рыхтуемся да наваголнай ёлкі ў школе — рыхтуем мастацкую частку, а таксама задумалі арганізаваць кулік па Белавежскай пушчы.

Аляксандр Іванюк — дырэктар ліцэя:

— Дырэкцыя школы высока ацэньвае ўклад праўлення школьнага гуртка ЗМВ у выдзенне палітычнай, культурнай і грамадскай працы ў нашай школе. Мерапрыемствы, якія арганізуе ЗМВ, успрымаюцца добра сярод вучняў і настаўнікаў — гэта яшчэ не адзіная арганізацыя, якая працуе ў нас добра. Вось напрыклад, ЗГП. Аб справах гарцэраў найлепш, думаю, раскажа сама Галена Устынюк — начальнік гарцэрскай дружыны, вучаніца IV «б» класа.

— У нашай школе існуюць старэйшагарцэрскія дружыны і інструктарскія

(Працяг на стар. 5)

XV ГОД

# НЕ БАЯЦЦА ПРАЦЫ

Мікалай Матэйчык — адзін з першых членаў Беларускага таварыства ў Польшчы. Старшыня гуртка ў Гарадку. Намеснік старшыні павятовага аддзела Беларускага таварыства. Член прэзідыума БГКТ. Старшыня камісіі культуры ГП БГКТ.

— Прыгожая кар'ера, Коля, у тваёй грамадскай працы.

— Не гавары толькі пра маю кар'еру. Сама ведаеш, што гэта цяжкая праца.

— Ты з Гарадка, слаўнага Гарадка. Можа, тут трэба шукаць крыніц тваёй грамадскай актыўнасці, няўседлівасці?

— Гарадок, факт, заўсёды славіўся грамадскай актыўнасцю. Толькі розніца тая, што да вайны ўсё рабілася без дапамогі і нават супраць афіцыяльнага курсу, а цяпер магчымасці і ўмовы для грамадска-культурнай працы стварыла нам улада.

— А ў Гарадку пасеянае зерне ўпала на добрую глебу...

— Можа тут людзі жылку грамадскіх дзеячоў. У такім асяроддзі лягчэй працуецца.

— Калектыў вашай Мушынскай спявае, што Гарадок гэта не горад і не вёска. А што, Коля? Які ваш людскі базіс?

— Гарадоцкі базіс вельмі нетыповы: частка сялян, рабочыя, інтэлігенцыя. Адразу выясніць хачу, што наша інтэлігенцыя з паходжання гарадоцкая. Мы, як кажуць, не купляем людзей для Гарадка. Усе яны звязаны з вёскай, з зямлёй, з яе выйшлі, любяць яе і для яе працуюць.

— Якая ж з успомненых табой груп, так сказаць, вядучая?

— У нас няма падзелу, ніякага. Наступіла поўная інтэграцыя. Людзі тут жывуць з давен-даўна. Вяселле каталіцкае ці праваслаўнае, хрысціны адны ці другія, усе святкуюць і ходзяць у адведкі. Усе разам кідаюць на кашу ці разам куму на баране возяць.

— Называеш цікавыя народныя звычаі, яны жывуць яшчэ ў Гарадку?

— Так, толькі замест кашы цяпер ставяць торт. На барану таксама цяпер не дасцюча саджаюць куму, але разам барану з кумой садзяць на воз. З сумам сцвердзіць трэба, што гінуць адна цікавыя народныя звычаі.

— А што ты на гэта, як дзеяч і член ГП?

— Трэба, каб знайшліся людзі, якія б запісвалі формы народнай творчасці. Можна апрацоўваць на канве народных звычаяў сцэнарыі для самадзейнікаў. Добра было б, каб нашым фальклорам зацікавіліся вучоныя, этнографы.

— Здаецца, Галоўнае праўленне не мае поўнай інфармацыі ў гэтай галіне, не мае этнаграфічнай карты, каб не прадставіць вучоным. Думаю, што ў шырокіх этнаграфічных працах такая карта была б добрым дапаможнікам і спрыяла б планавасці ў працы.

— Ёсць пры ГП этнаграфічная камісія, якая канцэнтруе ўвагу на справах матэрыяльнай культуры і фальклору. Але яна вельмі мала або амаль нічога не зрабіла для таго, каб пачаць запісваць абрады і абрадавыя песні. Была навуковая экспедыцыя Варшаўскага універсітэта для даследаў над гаворкамі Беласточчыны. Такая ж экспедыцыя прыдалася б і на абрады. Добра таксама, каб людзі самі, як патрапяць, запісвалі абрады, звычаі, песні, пагаворкі і прысылалі іх у ГП. Трэба абавязкова нам дайсці да такіх людзей.

— Мо б конкурс?

— Можна, абы толькі яго добра правесці.

— Гарадок выпрацаваў сабе мадэль культурнай дзейнасці; непаўторны, багаты, свой уласны. Але ў нашым кул-

(Працяг на стар. 3)



# НАВУКОВЫ ГУРТОК ПРАЦУЕ

10 студзеня адбылося пасяджэнне праўлення навуковага гуртка, дзейнічаючага пры Галоўным праўленні БГКТ. Прыняты на ім істотныя пастановы адносна далейшай дзейнасці гуртка, а перш за ўсё абмеркавана справа перыядычнага выдавання «Навуковых сшыткаў». Навуковы гурток выразна ўвайшоў у перыяд сваёй інтэнсіўнай дзейнасці. З нагоды 15-годдзя БГКТ варта прысвяціць яму некалькі слоў.

Дзейнасць навуковага гуртка амаль такая ж даўняя, як дзейнасць таварыства. Першы сход маладых беларускіх навукоўцаў адбыўся яшчэ ў 1958 годзе. Фармальна гуртох існуе ад студзеня 1959 года. Хутка ўдалося прыцягнуць да працы ў гурток такіх вядомых ва ўсёй краіне навукоўцаў, як, напрыклад гісторык Е. Вішнеўскі ці эканаміст Э. Тамашэўскі. Першым відавочным плёнам працы гуртка быў выдадзены ў 1960 годзе навуковы зборнік, спалучаны з календаром на 1961 год. Выданне гэтае неаднойчы крытыкавалася за розныя недахопы, а перш за ўсё за гэтае дзіўнае спалучэнне навуковага зборніка з календаром. Праз некалькі гадоў (1964) выйшла другая кніжка, падрыхтаваная навуковым гуртком, пад загалоўкам «Навуковы зборнік».

У сувязі з недахопам публікацый заняпала ў апошнія гады і дзейнасць навуковага гуртка.

У канцы мінулага года дзейнасць гэтая ажыла нанава. Заслуга ў тым немалая новага старшыні гуртка магістра Юркі Туронка, які прысвячае гуртку ўсе свае арганізацыйныя і навуковыя здольнасці.

Адкрываюцца новыя магчымасці навуковых публікацый. Навуковы гуртох навязаў менавіта цесны кантакт з Беластоцкім навуковым таварыствам, у выніку чаго будуць выдавацца супольна на беларускай мове спамянутыя «Навуковыя сшыткі». Пакуль што запланавана выданне гэтых сшыткаў у гадах 1972, 1973 і 1974.

На апошнім пасяджэнні праўлення навуковага гуртка пастаноўлена, што сшыткі гэтыя будуць мець толькі навуковы, а не, як прапанавалася раней, папулярызатарскі характар. Тэматычна будуць яны датычыць перш за ўсё розных рэгіянальных праблем усходняй Беласточчыны і пражываючых у Польшчы беларусаў. Будуць яны ахопліваць шэраг галін ведаў, як літаратуразнаўства, лінгвістыка, гісторыя, этнаграфія, сацыялогія, геаграфія, дэмаграфія і г.д.

Істотнай галіной працы навуковага гуртка будзе збіранне этнаграфічнага матэрыялу. Як вядома, у вёсцы нашай адбываюцца вялікія пераўтварэнні, у ходзе якіх гіне ўся традыцыйная народная культура. Нашым заданнем з'яўляецца захаванне для будучыні рэштак яшчэ да нядаўна такой багатай народнай культуры. Не запісаная ў пару песня зусім калісьці загіне, зanікнуць старыя багатыя абрады і не будзе каму іх успомніць, знішчацца старыя прылады працы. Збіранне этнаграфічных матэрыялаў сустракаецца аднак з шэрагам рознага роду цяжкасцей. Справа перш за ўсё ў тым, што члены навуковага гуртка працуюць у ім — можна было б сказаць грамадскім чынам. Навука, навуковыя доследы і навуковая праца з'яўляецца для ўсіх членаў гуртка дададатковым другарадным заняткам у адносінах да іх прафесіянальнай працы. А збіранне этнаграфічных матэрыялаў патрабуе шмат часу, сіл і намаганняў. Нягледзячы на гэта, рознымі метадамі ўжо зараз сабрана параўнальна многа этнаграфічнага, а асабліва фальклорнага матэрыялу. У будучыні плануецца праводзіць гэтую працу больш сістэматычна і мэтанакіравана.

Пры адпаведных умовах праца навуковага гуртка можа ў значнай меры паглыбіць нашыя веды аб беларусах у Польшчы, аб мінулым і сучасных праблемах Усходняй Беласточчыны.

*У. Паўлючук*

# АРЛЯНСКІЯ СПУЛДЗЕЛЬНІ

Новыя заданні сельскай гаспадаркі — гэта таксама новы змест працы вясковай спулдзельчасці. Зараз займаецца яна не толькі гандлёвымі справамі, але і арганізуе справы сельскагаспадарчай прадукцыі, робіць паслугі нашай вёсцы.

Напрыклад ашчадна-пазыкавая спулдзельня (СОП) у Орлі налічвае зараз каля 2 тысяч членаў. За апошнія два гады прыбыло тут 370 новых членаў. СОП у Орлі зараз мае больш 6.700 тысяч зл. укладаў. Калі прыняць пад увагу 1968 год, дык колькасць укладаў павялічылася на больш чым 470 тысяч зл. Гэта абазначае, што гаспадары ўсё часцей пераконваюцца, што грошы найлепш трымаць не ў панчосе, але ў банку. Аднак было б гэта чыстае спрашчэнне справы. Маючы кніжачку ў СОП, гаспадар можа залатвіць хутчэй шмат даволі клапатлівых спраў: заплаціць падатак, купіць будаўляныя матэрыялы ці машыны і г.д., не патрабуючы стаяць у чарзе да касы. Зрэшты, спісак паслуг, якія выконвае сваім кліентам СОП, з году ў год пашыраецца. Гаворачы аб грашовых укладах гаспадароў нельга забываць, што іншыя, патрабуючыя, атрымліваюць з СОП крэдыт. За мінулыя два гады СОП у Орлі дала банкаўскіх крэдытаў гаспадарам на 574 тыс. зл. больш, чым у папярэдніх двух гадах. Пацяшаючым з'яўляецца і тое, што гаспадары ў час сплачваюць гэтыя крэдыты. Для прыкладу скажам, што ў 1968 годзе пратэрмінаваных пазык было 194 тыс. зл., у 1969 — 88 тыс. зл., а ў мінулым годзе лік гэты яшчэ паменшыўся.

З паслугамі звязана таксама і дзейнасць ГС. Мернікам дасягненняў ГС у Орлі быў той факт, сцвярджалася на канферэнцыі ПАРП, што ў 1969 годзе на запланаваныя 400 тыс. зл. прыбытку, дасягнута 878 тыс. зл. Але нельга забываць, што ў 1968 годзе на запланаваных 650 тыс. зл. прыбытку ГС выпрацавала страты лікам у 44 тыс. зл. Непасрэдна завініла тут ў 1968 годзе кіраўніцтва ГС. Аднак, як гаварылася на канферэнцыі, віну тут мела і ПОП пры гмінпай спулдзельні ў Орлі, якая не аналізавала дзейнасці ГС, а асабліва членаў партыі, займаючых тут кіраўнічыя пасады. Імenna дзякуючы персанальным зменам можна было хутка ліквідаваць недахопы.

Спраўная праца вясковай спулдзельчасці і пашырэнне паслуг, якія яна выконвае для сельскай гаспадаркі, у многім залежыць ад актыўнасці саміх гаспадароў, актыўнасці партыйных ці зэтэсэлеўскіх арганізацый. (ак)



*Індыкі ў Ляўкове.* *Фота Я. Цялушэцкі*




## ДАРМА Ў ЖЫЦЦІ НЕ ДАЕЦЦА НІЧОГА

Пісьмо Галі адбілася шырокім рэхам не толькі ў Польшчы. Мы атрымалі пісьмо са сталіцы Францыі Парыжа, а адказвае на ліст Галі Алёна Чыж.

«Кажаш, што думаеш «зыйсці з дарогі», «каб не перашкаджаць іншым». Шкада, што шмат зышло. Праўда, па гэтай дарозе ісці цяжка, галоўнае — трэба «прысесці» і «зубрыць-зубрыць», каб двойкі рэдкімі былі.

Калі чаго не разумееш па хіміі ці мове, знойдзеш сяброўак — сяброў, якія табе высняць «цяжкасці» і ніводзін настаўнік не адмовіць табе ў дапамозе, калі ты толькі звернешся да яго з просьбай.

На жаль, пяцёркі залежаць ад вучня. Трэба вучыцца, кожны вучань здольны мець прынамсі не благія ацэнкі. Дарма ў жыцці не даецца нічога, а галоўнае навука, тут сваёй галавой трэба падумаць і калі сесці за кнігу, дык трэба думаць аб тым, што там напісана, а не аб тым, куды верабей лётае (часам і аб гэтым трэба думаць).

Калісь «кашаеды» — вучні духоўнай семінарыі ў Вільні спявалі:

Ах балы мои, балы,
Единицы и нули,
Двойки, тройки иногда,
А четвёрки никогда.
А пяти, пяти, пяти
И в журнале не найти.

і то «з дарогі не зыходзілі», а многія з іх вышлі вучонымі, культурнымі людзьмі.

Дарагая, мілая Галя, я ўпэўнена, што да канца года і ты не будзеш мець ніводнай двойкі. Будзь адважная».

*Алена Чыж*

# НЕ БАЯЦЦА ПРАЦЫ

(Працяг са стар. 1)

турным руху Гарадок — гэта адзіны прыклад, які можна адважна ўсюды паказаць. А ўсё ж, ці не варта было б зрабіць Гарадок ў нейкай ступені метадычным цэнтрам для культурных дзеячоў? Прыклад вучыць лепш, чым найлепшыя словы... Дык яшчэ прашу пару слоў аб галоўных напрамках у грамадска-культурнай дзейнасці арганізацыі.

— Звяртаем ролю куды большую на гурток. Каб людзі не баяліся працы і ініцыятывы, каб выкарыстоўвалі ўсе рэзервы, якія ёсць вакол іх і ў іх саміх, каб стваралі неўміручыя вартасці. Не ісці на хуткія і лёгкія эфекты, для смеху толькі. Шмат гаворым, што трэба скончыць з пастаноўкай п'ес, у якіх п'юць гарэлку. Да п'есы таксама патрэбны творчы і крытычны падыход. З рэпертуарам для самадзейнасці цяжка, але маем крыніцы, з якіх можам чэрпаць. Патрэбен большы і пастаянны кантакт культурных дзеячоў з ГП. Яны павінны ведаць усе нашы намаганні і служыць нам парадай.

*Размову вяла Вера Лейчук*
*фота Цаф — Сянько*




# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

АПАКРЫФІЧНАЯ ЛІТАРАТУРА — спецыфічны жанр рэлігійнай пісьмовасці, які карыстаўся падтрымкай з боку царквы. Значэнне тэрміна «апокрыф» прайшло значную эвалюцыю. Першапачаткова азначаў ён твор з рэлігійнай тэматыкай выключнай складанасці, вялікай ступені цяжкасці, а нават таямнічасці ў змесце і форме. З часам у рэлігійных асяроддзях пачалі ўсё часцей паяўляцца асобы або групы людзей, якія згодна з сваімі канцэпцыямі, але не згодна з афіцыйнымі канонамі царквы самастойна тлумачылі розныя праблемы, звязаныя з старым і новым запаветам. Да гэтых «ерасей» мімавольна далучалася таксама інтэрпрэтацыя рэлігійных праблем з боку прастанароддзя, якое, не ведаючы дакладна афіцыйнай навукі, самастойна, найчасцей спрошчана тлумачыла такія справы, як паўстанне зямлі, людзей, або рысавала візію канца света. Гэтыя погляды пранікалі таксама ў пісьмовыя помнікі і зразумела, што такая літаратура не магла быць адобрана царквой.

Аб спрошчаным, прымітыўным тлумачэнні рэлігійных праблем у гэтай літаратуры можа сведчыць, між іншым, і тое, што нярэдка ў ёй сцвярджалася, быццам бы душа чалавека была створана богам, а цела — д'яблам. У адным з помнікаў расказваецца аб Хрысце, які мыецца ў лазні і націрае ўсе члены свайго цела саламяным вехцем. Часта святыя прадстаўлены ў такой літаратуры як нармальныя «людзі — аратыя». Іх характарам і прывычкам уласцівыя такія рысы, як зайздрасць, лянота, неахайнасць і г.д.

Зразумела, што такое прыземнае тлумачэнне высокіх рэлігійных матэрый не адпавядала царкве. І таму літаратура «ерасі» і літаратура з народным уклонам атрымала агульную назву літаратуры апакрыфічнай, гэта значыць, такой літаратурай, якая знайшлася на індэксе і была забаронена царквой. Няма сумненняў, што гэта не перашкаджала яе распаўсюджванню. А нават наадварот, простае «чалавечае» тлумачэнне розных незразумелых рэлігійных праблем спрыяла распаўсюджванню гэтай літаратуры ў шырокіх колах грамадскасці. Тайком цягнуліся да яе таксама розныя царкоўныя чыны, якім цікава было пазнаёміцца з новай інтэрпрэтацыяй рэлігійных канонаў.

Бадай што найцікавейшым помнікам апакрыфічнага жанра было «Хаджэнне Багародзіцы па муках», якая паявілася ў Русі, як мяркуюць, у XII ст. Твор прадстаўляе зыход Багародзіцы разам з арханёлам Міхаілам у пекла. Прадстаўленая ў творы карціна пакут мучанікаў выключна яскравая. Адны з грэшнікаў вісяць, падчэпленыя крукамі за бараду, язык, ці вочы, другія стаяць у вогненнай рацэ па калені, па пояс, або па шыю. Аўтар «Хаджэння», несумненна, не любіў жанчын. Сярод пакутуючых іх вельмі многа. Адны з іх папалі ў пекла за сямейную здраду, другія за прадажнае каханне, трэція за глупства і гаварлівасць.

Як вядзе сябе ў пекле Багародзіца? Толькі пры людзях, якія замучылі яе сына, Багародзіца салідарызуецца з пякельнымі мукамі, пры ўсіх другіх грэшніках Багародзіца спачувае ім і дамагаецца аблягчэння кар.

Чаму помнік гэты быў залічаны да апакрыфічнай літаратуры і знайшоўся на індэксе? Мабыць, перш за ўсё таму, што сярод грэшнікаў знайшліся таксама епіскапы, патрыярхі, папы, а таксама таму, што паказаная ў творы карціна мук была занадта натуралістычнай і не згоднай з царкоўнымі ўяўленнямі аб пекле.

Несумненна, літаратура са згушчанымі фарбамі, кантрастамі, крайнасцямі адпавядала густам тагачаснага простага чытача. І таму «Хаджэнне» карысталася папулярнасцю ў народзе.

Матыў пякельных мук быў шырока вядомы таксама ў заходнееўрапейскай рэлігійнай пісьмовасці. Матыў гэты ўплываў таксама на мастацкую літаратуру. Прыкладам можа быць «Боская камедыя» Данте або загаловак трылогіі А. Талстога «Хаджэнне па муках».


*Вось Генрык Зарэмба — фрэзероўшчык...*


*Калі пусціць у рух сваю такарню Ян Жэпнеўскі, дык аж страшна глядзець...*


*— Думаю, — гаворыць Вітальд Тышук, — што ўжо тут застануся аж да пенсіі...*

Пачатак на стар. 1

# ПЕРШАЯ ФАБРЫКА Ў БЕЛЬСКУ

трабуе добра падрыхтаваных людзей, з адукацыяй і практыкай. А тут іх мала.

— Праўду кажучы, — сцвярджае інжынер Шадура, — такіх людзей у Бельску зусім не было. Мясцовая прафесіянальная школа рыхтавала механізатараў сельскай гаспадаркі. Шмат яе выпускнікоў знайшло працу ў нас. У наступных гадах, спадзяемся, будзе лепш. Мы дагаварыліся з асветнымі ўладамі, і бельская прафесіянальная школа прыстасавала сваю праграму да нашых патрэб.

Ідзем аднак да іншых рабочых. Вось Генрык Зарэмба — фрэзероўшчык. Адзін з тых, хто ўжо ў сваёй прафесіянальнай біяграфіі сустракаўся з металаапрацоўчай тэхнікай.

— Умовы працы тут вельмі добрыя, няма на што наракаць, — гаворыць ён. — Чалавек сам сабе панам, як пастараешся, так і маеш. Наша брыгада, якой кіруе майстар Пётр Даніла, рашыла змагацца за званне «Брыгады сацыялістычнай працы». Дык стараемся добра працаваць і пашыраць свае веды.

— Таварыш Зарэмба, — інфармуе кіраўнік, — сваю дзённую норму выконвае ў 130 працэнтах.

Ідзем далей. Над вялікім станком з увагай нахіляецца яшчэ зусім малады токар Ян Жэпнеўскі.

— Гэта добры, руплівы рабочы, — паясняе кіраўнік. — Калі пусціць у рух сваю такарню, дык аж страх падыходзіць. Выконвае не менш 120 працэнтаў сваёй нормы.

Ян Жэпнеўскі пакуль стаў токарам, працаваў чорнарабочым у бальнічнай пральні. Праца на бельскай фабрыцы стала для яго жыццёвым авансам.

— Я нават не марыў, што буду токарам, — шчыра прызнаецца ён. — Хачу вучыцца, каб здабыць хаця б чэлядніцкія паперы. На завадскім складзе гатовых вырабаў знаёмлюся з магазінерам Вітальдам Тышуком. Ён таксама прыйшоў працаваць на бельскую метала-апрацоўчую фабрыку са спулдзельчага гандлю, дзе займаўся пастаўкамі фруктаў і агародніны.

— Думаю, — гаворыць ён, — што ўжо тут застануся аж да пенсіі.

Інжынер Шадура паказвае мне яшчэ святліцу і іншыя бытавыя памяшканні, якімі карыстаюцца рабочыя.

— Калі пабудуем дом на бюро дырэкцыі, — кажа ён, — дык цэлы гэты будынак аддамо для патрэб рабочага калектыву, для патрэб органаў працоўнага самаўпраўлення, партыйнай, прафсаюзнай і маладзёжнай арганізацый, якія ўжо ў нас актыўна дзейнічаюць.

Урачыстае адкрыццё бельскага філіяла наступіла ў гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. У маштабах гэтага спакойнага горада быў гэта таксама рэвалюцыйны крок.

— А як ідзе ў вас прадукцыя? — на развітанне пытаю яшчэ ў кіраўніка бельскай фабрыкі.

— Нармальна. План за снежань мінулага года і за студзеньскія дні гэтага года мы выканалі поўнасцю. Нашы вырабы амаль у 90 працэнтах ідуць на экспарт. Дык мы не можам сабе дазволіць на абы-якую працу.

В. РУДЧЫК

*Фота Цаф — Сянько*

# ГАСПАДАРЧЫ ПЛАН І БЮДЖЭТ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

Гаспадарчы план і бюджэт на 1971 год былі галоўнай тэмай пасяджэння апошняй сесіі павятовай рады народовай у Гайнаўцы. Дыскусія вялася вакол праблем як найбольш рацыянальнага і поўнага выкарыстання сродкаў, прызначаных на далейшае развіццё гаспадарчага і культурнага жыцця, асветы, здароўя і забеспячэння патрэб жыхароў павета. Гаспадарчы план прадугледжвае, што апрацоўваемая плошча сельгасугоддзяў складзе 78 тыс. 500 гектараў, у тым ліку пад пасевамі — 50.000 га. Структура вырошчвання павінна выглядаць так: збожжа — 29.800 га, бульба — 10.600 га, кармавыя расліны — 1590 га. Сярэдні ўраджай чатырох збожжавых культур павінен скласці 17,5 ц, а бульбы — 175 ц з гектара. Узрасце пагалоўе буйнай рагатай жывёлы на 600 галоў, а свіней — на 2 тыс. штук. Падлічана, што надоі малака ўзрастуць з 19 млн. літраў у 1970 годзе да 21,8 млн. літраў у 1971 г.

Павінна павялічвацца ўгнойванне мінеральнымі ўгнаеннямі і вапнаванне глебы. План выкарыстоўвання ўгнаенняў у 1971 г. складзе 6300 тон NPK, што ў параўнанні з мінулым годам дае ўзрост на 31,3%. Выкарыстоўванне вапны павінна скласці 4200 тон (у мінулым годзе — 3200 тон).

Агульны бюджэт павета на 1971 г. акрэсліваецца сумай 111 млн. зл. У параўнанні з мінулым годам ён павялічыўся на 10 млн. зл. Найбольшая сума з гэтага — 19 млн. зл. — прызначаецца на капіталаўкладанні ў сельскай гаспадарцы, у тым ліку 11 млн. пойдзе на меліярацыю. У рамах гэтага будзе праведзены дрэнаж 533 гектараў ворнай зямлі, поўнае загаспадаранне лугоў і паш на 579 га. Коштам 6482 тыс. зл. будзе праводзіцца праца ў грамадах Кленікі і Новаберазова. Пашырэнне і мадэрнізацыя ПОМ-аў у Кляшчэлях і Нарве будзе каштаваць 1,5 млн. зл.

Найбольшым камунальным капіталаўкладаннем у Гайнаўцы будзе будаўніцтва водаправодна-каналізацыйнай сеткі і гарадской ачышчальні сцёкаў. На гэта прызначаецца сума 5390 тыс. зл. Закончана будзе будаўніцтва пункту аховы здароўя ў Дубічах Царкоўных, аддзела заразных хвароб у гайнаўскай бальніцы і пункту аховы здароўя ў Белавежы. Працягвацца будзе будова 9-тоннай пякарні, смажальні рыбы, прадпрыемства гарадскога азелянення, дадатковых памяшканняў для МРГТ, спортзалы для школы № 1, будаўніцтва трох жылых дамоў для 146 сямей, будаўніцтва складаў і майстэрань для спулдзельні «Чын», а таксама пашырэнне спулдзельчых паслуг.

У прамысловасці найбольшая сума прызначаецца на будаўніцтва II этапу керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове — 46400 тыс. зл., а таксама будзе аддадзена ў карыстанне ў I палове гэтага года фабрыка стружкавых пліт. У плане прадугледжана правядзенне рамонтаў памяшканняў у Гайнаўцы — 14 будынкаў, у Нараўцы — 1, і 2 — у Белавежы.

Апрача гэтага, грамадскім чынам будзе пракладзена 13 км дарог, якія спалучаюць вёскі Арэшкава — Старына, Палічна — Апака Вялікая, Залешаны — Сакі, Чарэмха — Дашы, Тарнопаль — Семяноўка, Кленікі — Гародчына, пабудаваны будуць сцёкі на ваду на дарогах Лапухоўка — Тыневічы і Падляўкова — Барысаўка.

У бюджэт не ўключаны капіталаўкладанні, якія прызначаны для прамысловых прадпрыемстваў, кіраваных цэнтральна. У 1971 годзе на мадэрнізацыю фабрыкі сухой дэстыляцыі драўніны і фабрыкі машыннай прамысловасці для лясніцтва прызначана 20 млн. зл.

Гэта толькі некаторыя капіталаўкладанні, якія ў 1971 годзе ўведзены ў бюджэтны план Гайнаўскага павета. Поўнае і адпаведнае выкананне пастаўленых заданняў на гэты год будзе гарантыяй далейшага гаспадарчага развіцця павета, прынясе эканамічныя і грамадскія эфекты.

К. ЛЯШЧЫНСКІ

## ДАПАМАГАЮЦЬ ЗВЯРКАМ ПЕРАТРЫВАЦЬ ЗІМУ

Настала зіма. Усюды глыбокі снег. Цяжка цяпер здабываць корм лясным зверкам. З дапамогаю ім прыйшла школьная моладзь, між іншым, вучні з Семяноўкі і Ляўкова, Гайнаўскага павета. Моладзь з Семяноўскай школы робіць кармушкі, якія развешвае на дрэвах пры школе і ў полі. У кармушкі прыносіць яна мякіну і зерне.

Ляўкоўскія вучні зрабілі некалькі новых кармушак, а таксама наладзілі старыя кармушкі. Сыплюць яны ў іх зерне і акрушыны хлеба. Апрача таго, вучні робяць паснікі для зайцаў. У паснікі прыносяць яны свежы корм: сена, моркву, буракі або лісткі капусты. (яц)



ІВАНУ ШАМЯКІНУ — 50 ГОД

# ПІСЬМЕННІК СВАЙГО ПАКАЛЕННЯ

Іван Шамякін — адзін з самых выдатных і папулярных пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Вось ужо чвэрць стагоддзя кожная новая кніга яго выклікае бурлівыя спрэчкі, становіцца прадметам дыспутаў у школах, інстытутах, не абмінаюць гэту кнігу бібліятэкі, наладжваючы на ёй чытальніцкія канферэнцыі.

Іван Шамякін — пісьменнік вельмі сучасны. Усе яго кнігі нараджаліся як адказ мастака на вострыя і злабадзённыя пытанні жыцця, угадвалі нешта вельмі істотнае ў зрухах індывідуальнай псіхалогіі і грамадскай свядомасці. Пісьменнік мае шчаслівую здольнасць улавіць,ператварыць у мастацкім вобразе тое, што яшчэ толькі як бы носіцца ў паветры, не мае дакладнай назвы, ляжыць на мяжы ўспрыймання і ўсведамлення. З усіх беларускіх празаікаў Шамякін, бадай, найбольш чулы да павеваў у сферы маральна-эстэтычнай.

Іван Шамякін нарадзіўся 30 студзеня 1921 года ў вёсцы Карма Добрушскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і лясніка. Па характару службы бацьку часта пераводзілі з месца на месца. Для пісьменніка, відаць, немалаважным з'яўляецца тое, дзе ён нарадзіўся, што ўбачыў у сваім дзяцінстве. Дзяцінства — пара найбольш вострых, глыбокіх уражанняў. Тое, што Шамякін умее рысаваць пейзаж, адчувае прыгажосць прыроды, мае, несумненна, сувязь з яго дзіцячымі ўражаннямі.

Да вайны будучы пісьменнік вучыўся ў розных вясковых школах, а затым у Гомельскім тэхнікуме будаўнічых матэрыялаў. Ужо ў школе ён пісаў вершы, змяшчаў іх у сцянных газетах, і чаму для працягвання адукацыі выбраў тэхнікум будаўнічых матэрыялаў, застаецца незразумелым. Хутчэй за ўсё ў гэтым выявілася юнацкая неабдуманасць. Але вершы пісалі нават студэнты гэтай такой празаічнай навучальнай установы, і на гонар Шамякіна трэба сказаць, што ён неўзабаве стаў прызнаным тэхнікумаўскім паэтам.

Даволі рана — у васемнаццаць год — Іван Шамякін ажаніўся. Сустрэў студэнтку-медычку, якую ведаў яшчэ па вучобе ў сельскай школе, і, не чакаючы абароны дыпломнага праекта, прапанаваў сваёй выбранцы сэрца і руку. Гэта ранняя жаніцьба аказалася шчаслівай і ўстойлівай. Вытрымала жыццёвыя выпрабаванні. Цяпер у Шамякіна тры дачкі і сын, а ён сам, яшчэ да пяцідзесяцігадовага ўзросту стаў дзядулем.

Жыццёвы шлях Івана Шамякіна вельмі тыповы для яго пакалення. Пасля заканчэння тэхнікума — некалькі месяцаў самастойнай працы, затым прызыў у армію. Неўзабаве — вайна. Ваяваць давялося на далёкай поўначы, пад Мурманскам. Чалавеку, які вырас у параўнальна мяккім клімаце Беларусі, было нялёгка ў тундры, ва ўмовах доўгай палярнай ночы, лютай зімы.

Шамякін быў камандзірам гарматы, служыў у зенітна-артылерыйскай часці. Немцы, налятаючы на Мурманск, бязлітасна бамбілі гэту часць. Але, як успамінае Шамякін, і зенітчыкі навучыліся добра ваяваць, збіваючы за адзін налёт па тры-чатыры самалёты, а аднойчы збілі нават шэсць. Камандзір з Шамякіна атрымаўся добры.

Пасля Мурманска былі новыя ваенныя дарогі — Польшча, Германія.

Калі пасля вайны, працуючы настаўнікам у вясковай школе, Іван Шамякін узяўся за пяро, меў аб чым расказаць. Першае яго апавяданне «У снежнай пустыні» надрукавана яшчэ ў 1945 годзе. У ім расказваецца аб баях з нямецкімі захопнікамі на Крайняй Поўначы. аб прыгажосці, велічы душы простага салдата. Гэта ж тэма з'яўляецца галоўнай у аповесці «Помста».

Шырокую вядомасць сярод чытачоў прынёс Шамякіну яго першы раман «Глыбокая плынь», надрукаваны ў 1948 годзе. Беларуская літаратура да гэтага часу мела ўжо нямала твораў аб пар-

